 

**ATRAKCYJNY KONKURS „NIWY" DLA ZBIERAJĄCYCH PRENUMERATĘ**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (506) | ГОД X | 7 ЛІСТАПАДА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.




У кастрычніку Беласточчыну наведаў вядомы беларускі спявак Міхась Забэйда - Суміцкі. На здымку наш госць у Белавежскім парку. Ніжэй яго пажаданні для нашых чытачоў.

Фота А. Карпюк

*Жадаю чытачам „Нівы" палюбіць свою родную песню так, як люблю яе ўсё жыццё я*

*Міхась Забэйда-Суміцкі*

АКАДЭМІЯ ІНЖЫНЕРА ЛЯВІЦКАГА

## ЦІ ТВОЙ ВУЧЫЦЦА?

Такія пытанні можна пачуць на кватэрах працаўнікоў ВВП — вядомай фабрыцы дакладных вырабаў (Вытвурні выробув прэцызыйных) у Чорнай-Беластоцкай. Так пытаюць адна другую жонкі рабочых. Справа кваліфікацыі мужа стаецца амбіцыяй жонкі і цэлай сям'і. Цяперашняя фабрыка і яе тэхніка штораз менш патрабуе кавальскай сілы, а штораз больш патрабуе розуму, спрыту і «залатых рук». Такія «рукі» многа зарабляюць, і гэта важнае не толькі жонкам...

ВВП мае свае вечаровыя школы: філіял беластоцкага трох- і пяцігадовага Механічнага тэхнікума, прафесіянальную і пачатковую школы. Шчырым арганізатарам усяго таго з'яўляецца пажылы ўжо інжынер Мечыслаў Лявіцкі. Асветніцкі запал гэтага дасведчанага спецыяліста годны самай высокай пашаны, ягоны запал наводзіць на дырэкцыю фабрыкі арыгінальны перапалох:

— Пане Лявіцкі, робіце з фабрыкі акадэмію!

У такім паўсур'ёзным жарце крыецца тыпова дырэктарская заклапочанасць пра прадукцыйную здольнасць вялікай масы рабочых-студэнтаў, якія, адбыўшы сваю змену, бятуць на лекцыі. А потым, да позняй ночы, адрабляюць хатнія заданні, замест храпсці моцным сном мускулістага чалавека.

Толькі ў Механічным тэхнікуме вучыцца больш 120 асоб, пераважна, дарослых і сямейных. Дарэчы, у бягучым годзе на каля дваццаці месц у адным першым класе было амаль восемдзесят ахвотных! Адбыўся ўжо першы выпуск абсальвентаў, трыццаць адзін рабочых атрымалі дыпломы тэхнікаў. Характэрнае, што суровых экзаменаў не вытрымала ўсяго толькі двух.

Тыя, хто здабыў тут тэхнічную адукацыю, з асаблівай сілай звязалі свой жыццёвы лёс з роднай фабрыкаю. Яны цешацца яе ўдачамі і хварэюць душою за яе няўдачы. Вось у чым вялікі сэнс гэтай «акадэміі» інж. М. Лявіцкага.

У чорна-беластоцкай ВВП шукаюць і знаходзяць працу сотні вясковых хлопцаў і дзяўчат з Сакольскага і Дуброўскага паветаў. ВВП як бы створана для гэтых паветаў, у якіх амаль не існуе мясцовая прамысловасць. Шаснаццацігадовыя Марыські, Янкі, Стаські, Толікі аднак нічога фаховага не ўмеюць рабіць, трэба іх вучыць.

Даволі дзіўная ў іх вучоба, бо лекцыі ў рамесна-прафесіянальнай школе адбываюцца вечарамі. Удзень яны адрабляюць хатнія заданні, гуляюць і прыходзяць у школу змучаныя дзённымі ўражаннямі, сонныя.

Чаму так ёсць?

Па-першае, выкладчыкамі ў гэтай школе з'яўляюцца свае інжынеры, якія ўдзень нармальна працуюць і маюць вольны час толькі ўвечары. Па-другое, не ў сілах і не ў магчымасцях інж. Лявіцкага змяніць такую сітуацыю. Тое, што вучаць фабрычныя інжынеры, вельмі добра. Але зусім нядобра тое, што ніхто з адказных кіраўнікоў ВВП, значыць, дырэкцыя не задумалася ў сур'ёз над магчымасцямі звальненняў у службовы час на гадзіну-дзве-тры тых інжынераў, якія выкладаюць у школе. Дзякуючы такім звальненням яны маглі б выкладаць удзень і, як гаворыцца, са свежаю галавою. Думаю, такой развязкі патрабуе не толькі інтарэс вучняў, але, перад усім, добра зразуметы інтарэс фабрыкі. У вайне за гэты інтарэс інж. Лявіцкі застаўся сам адзінюткі, ён не адчувае ніякай падтрымкі але абыякавасць. Неабходна высніць дадаткова, што лекцыйныя заняткі ў гэтай школе адбываюцца толькі ў выбраныя дні тыдня, рэшту дзён вучні прысвячаюць практычным заняткам, так званым, варштатавым.

Хай паслужыць натхненнем для дырэкцыі кампрамісны падыход міністэрскіх улад да справы ўзросту кандыдатаў у Механічны тэхнікум. Паводле фармальнай устаноўкі, можна прымаць толькі тыя асобы, якія маюць закончаных васемнаццаць год. У ВВП працуе штораз больш маладых рабочых, якія закончылі двух- і трохгадовыя прафесіянальныя школы, але не закончылі... васемнаццатага году свайго юнацкага жыцця. І што тут зрабіць калі вельмі хочацца вучыцца далей, у тэхнікуме, каб не траціць дарма часу і, урэшце, каб не прызабыць таго, чаго ўжо навучыўся? Інж. Мечыслаў Лявіцкі папрасіў міністэрскія ўлады, каб згадзіліся прымаць гэтых рабочых у тэхнікум. Не ведаю, як доўга думалі ў міністэрстве над гэтаю просьбаю, але ўрэшце згадзіліся. Проста, згадзіліся і кропка.

Як я ўжо ўспамінаў, працуюць у ВВП, пераважна, вясковыя людзі. Сярод старэйшых рабочых нярэдка знаходзяцца паўпісьменныя, якім нават газету цяжка чытаць. Уся іх адукацыя — гэта

(Працяг на стар. 5)

### 15 ГОД

**Медыцынская Акадэмія ў Беластоку святкуе сваё пятнаццацігоддзе. Жадаем ёй далейшых поспехаў у плённай дзейнасці на карысць Беласточчыны і краіны. На здымку: Момант іматрыкуляцыі студэнтаў першага года. Урачыстую прысягу ад студэнтаў прыймае дэкан лекарскага факультэта дац. др мед. Раман Кардэцкі. За прэзідыяльным сталом Сенат Акадэміі і Рада факультэта. Пасярэдзіне рэктар Акадэміі праф. др мед. Людвік Камчынскі.**

**Фота Я. Нехвядовіч**








 

 

БЕЛАВЕЖА
орган літаратурна-мастацкага аб'яднання пры ГП БГКТ № 83

## С. ЗАСТАВІН

# ЛЯСНЫЯ РАСКАЗЫ

Вы не ведалі майго дзеда? — Слаўны быў чалавек, гэтакіх людзей зараз не бывае. Ён і да выпіўкі, і расказаць цікавае, а то і папрацаваць... Ну, хаця па праўдзе не любіў дзед нашай звычайнай, сялянскай працы. Дзед нарадзіўся і вырас у пушчы і ёй аддаў сваё шчырае і добрае сэрца. Дзед сам быў падобным да старога, пушчанскага дрэва: каржакаваты, з буйнай сівай барадою, з насупленымі бровамі, з-пад якіх ледзь відаць было пабляклыя блакітныя вочы, і з даволі вялікай «шышкай» з левага боку ілба, па прычыне якой дзед з кожным незнаёмым трымаўся стрымана. Дзед кахаў пушчу. Бывала зашыецца ў лесе, днямі цэлымі ні слыху ні дыху. Вернецца дамоў стомлены і пераменены да непазнакі, раззуе лапці, здыме кажух і, прыхваціўшы пайду чорстварга хлеба, забіраецца на печ, каб там ужо прыняць на сваю галаву ўсю дрань, якая ўзбіралася за гэты час на языку жонкі... А калі ўжо злая баба адвядзе душу, дзед спусціць з печы ногі, пагладзіць рукой бараду, і пайшла новая цудоўная аповесць аб лесе і звярах! На жаль не шмат я выслухаў дзедавых аповесцей, быў гэта такі ў жыцці маім паскудны час, калі пасля вячэры зараз жа спаць гналі. А дзед без аўдыторыі — нікуды... Аднак і тое, што пачуў, думаю добрым людзям спадабаецца.

### КАЗУЛЯ

Пайшоў аднойчы дзед у лес дроў загатовіць. Зіма ў той час была лютая, снег глыбокі, усе дарогі-дарожкі завеяны! Ды дзеду дарогі шукаць не трэба, ён пушчу ведаў, як уласную кішэнь. Заткнуў за пояс сякеру, узяў у рукі дубчака, ды і айда ў лес! Ідзе па лесе, нібыта ўверх не спаглядае, а ўсё бачыць вокам сваім: там граб падсохлы скрывіўся — добрае дрэва на люты мароз! — тут альха пахілілася — чым дрэнная на распалку? Прайшоў, намеціў, дзе што зрубаць, і да працы. Скінуў кажух, узяў сякеру, сплюнуў у далоні — рубае так, што лес гучыць! Ажно... Чуткае вуха дзеда злавіла незвычайны топат. Глянь — па трыбе лясным бяжыць, што сілы ў доўгіх нагах, стройная казуля! Зайграла ў дзеда кроў: кінуў сякеру і за дрэва. План у дзеда нескладаны: калі казуля параўняецца з ім, кінецца дзед да яе, схопіць лоўкай рукой за пярэднюю нагу, падатне да заду, і гатова. Як падумаў, гэтак і зрабіў. У той момант, калі казуля параўнялася з дрэвам, за якім прытаіўся дзед, ён выскачыў проста на яе, схапіў рукой — ды чорт бы яе ўзяў! — схапіў не за пярэднюю, а за заднюю нагу! Звычайна казулі з дзедам не раўняцца, а вось калі з разгону, калі ўзяць пад ўвагу імпет, тут іншая справа... Панясла дзеда казуля па трыбе гэтак, што толькі снег закурыўся! Ды дзед упарты, нагі не пускае. І вось, у нейкі момант, калі галава дзеда падскочыла на скрытым пад снегам бугарку і павярнулася назад, ён... абамлеў! — Вы думаеце дзед быў з дзесятка баязлівых? У галаве закружылася? — Яшчэ б, такога з дзедам не бывала. Дзед убачыў за сабой пагоню: стада галодных ваўкоў, якія што сілы ў нагах гналіся ў след. Лёгка цяпер можаце сабе ўявіць, што страціць непрытомнасць у гэтакім становішчы — гэта найлепшы выхад. Ваўкі не страцілі з вачэй сваёй асноўнай мэты і прабеглі праз нерухомае цела беднага дзеда, не звяртаючы на яго ніякай ўвагі! Вось называецца прытомнасць паляўнічага...

### ЛЯСНАЯ БІТВА

Дзед правіў яшчэ і такую гісторыю. Аднойчы ён вяртаўся ноччу з суседняй вёскі, ад млына. Вёз дзед некалькі метраў змеленага жыта і два дзесяткі мяшкоў сечкі на корм. Дарога што ж, нічога асаблівага, конь сам дарогу дамоў ведае. Скрыпіць-паскрыпвае воз, свеціць на небе месячык, неба чыстае, зоркамі мігатлівымі ўсеяна... Дзед, як чалавек звычайны гэтакіх пейзажаў, задрамаў. Праехалі гэтак некалькі кіламетраў, чуе дзед штосьці няладнае: конь храпе, дыба становіцца, у бок дарогі скача. Адной рукой дзед лейцы спягнуў, другой сякеру намацаў, прыўстаў на возе ды чуць не прысеў! — Насустрач мядзведзь імчыцца, а за мядзведзем стада ваўкоў! Здагадаўся дзед у чым справа, даўно ведаў аб старой непрыязні паміж мядзведзем і ваўкамі. Мігам выпраг каня і пагнаў яго ў лес, сам мігам ускарабкаўся на дрэва пры дарозе — чакае, што будзе. А будзе вядома што — лясная бітва. І сапраўды: мядзведзь бяжыць, нібыта ўцякае, а сам усё яшчэ азіраецца, быццам бы насміхаўся над пагоняй. Дабяжыць да меншанькага дрэва, прыхваціць яго дужымі лапамі, вырве з карэнчыкамі, ды як прыпусціць па стадзе: аднаго, двух ваўкоў, гэтак і знясло! Відаць аднак стаміўся касалапы, з палёгкай накіраваўся да дзедавага воза. На ляту, быццам бы саломінку, прыхваціў аглоблю і спраўна ўзабраўся на гурбу мяшкоў. Ваўкі нерашуча затрымаліся... «Ну, ну!» — закрычаў забыўшыся аб божым свеце дзед і тут жа спалохаўся свайго голасу. А ваўкі пачалі скакаць на воз. Ды што тут — стаіць мядзведзь на мяшках, заднія ногі шырока расставіў, ды толькі аглобляй варочае: раз замахнецца, адзін чэрап развалены! Ажно трэснула аглобля і пераламалася на воўчай галаве: на хвілінку разгубіўся касалапы. Ды толькі на хвілінку! Тут жа кінуўшы ў раз'ятраны натоўп асколак непатрэбнай прылады, ён абхапіў мятровы мяшок з мукой і спусціў яго на першага трапіўшага пад руку ваўка. Воўк нават піснуць не паспеў! Затым пайшоў другі, трэці, чацвёрты мяшок з мукой, а калі не стала мукі, касалапы пачаў швыраць сечку. Дзед аж звіваўся ад болю на сваім дрэве, ды што зробіш? Калі апусташэў воз і навокал зрабілася бела і жоўта (нават ваўкі былі белымі!) — мядзведзь скокнуў з воза ўбок, і, перш чымсьці ворагі паспелі дапасць да яго, узабраўся на дрэва! Трэба сказаць, што гэта было тое самае дрэва, на якім сядзеў анямелы дзед... Ёсць аднак у прыродзе сваі высакародныя правы: праз усю ноч, паводле гэтых правоў, прасядзелі побач сябе, на адным дрэве, дзед і мядзведзь у поўнай напружанасці, маўклівай згодзе. Калі наступіла раніца і адышлі ваўкі, мядзведзь першы спусціўся з дрэва, і як кажа дзед — нават неяк ветліва лапай махнуў на развітанне. Дзеда аднак знімаць прыйшлося з дрэва праезджым вазакам: відавочна кроў у нагах застыла ад натугі...

### СМЕРЦЬ СТАРОГА ДЗІКА

У кожнага свая смерць бывае, кажуць людзі. Адзін памірае ціха, спакойна, іншы са страхам, з крыкам, іншы проста без ніякага адчування. Смерці яшчэ таксама бываюць звычайныя і прыгожыя. Найпрыгажэйшая смерць бывае, — правіў дзед, — у старога дзіка. Стары, нікому непатрэбны дзік, які адстае ўжо ад свайго стада — гэта прыманка для ваўкоў. Ведае ён аб гэтым і ведае, што неўзабаве яму давядзецца ўступіць у свой апошні, смяротны бой. Бо дзік не чакае спакойна, як шынка на гасцей. Дзіка трэба ваўку ўзяць. А ўзяць старога, не такая то лёгкая справа. Дзед аднойчы бачыў гэтакі апошні, смяротны паядынак паміж старым дзікам а ваўкамі. Дзед восенню збіраў па лесе грыбы, калі на невялічкую палянку, на ўскраі якой ён знайшоўся, убег стары, вялікі дзік. Дзед аж залюбаваўся на гэтакую штуку: нават у той далёкі час не часта сустракаліся такія веліканы! Дзед прыкмеціў аднак, што бег у дзіка быў цяжкі і ён крывавіў. Дзік закруціўся на паляне, быццам бы чагосьці шукаў. выбраў тоўстае дрэва, абапёрся аб яго задам, і, апусціўшы да зямлі свой дужы, з белымі нажамі - клыкамі лоб, уставіўся чакаць. Неўзабаве на паляну выбеглі з лесу тры ваўкі. Дзед, як стаяў, гэтак і шлёпкуўся ніцма на зямлю... Першы воўк, што з налёту скокнуў на дзіка і здавалася нават не паспеў яго дакрануць, выляцеў у паветра і, закрэсліўшы ў ім дугу, з распоратым брухам упаў. Браць дзіка спераду, калі ён нізка апусціў свой лоб, усё роўна што жывём ісці пад нож. Два ваўкі затрымаліся і пільна пачалі сачыць за паядынкам. А дзік — відаць гэта было дзеду — слабеў. Збоку і з тоўстага карка сплывала яму на лоб і на вочы кроў. Дзік штораз то ніжэй апускаўся на пярэдніх нагах, і калі ўжо здавалася, што цяжкае цела яго зваліцца на зямлю, ён раптоўна ўзняўся, натужыўся і нечакана рынуўся ў атаку! У першую хвіліну дзед нават падумаў, што дзік з болю проста звар'яцеў! Атака дзіка была аднак прытомная і страшэнная: перад ёй не было ніякай магчымасці абароны. Воўк, якога намеціў стары дзік, паспеў толькі кляпнуць у паветры зубамі і ўздыхнуць. У той час другі воўк не страціў цэннай хвіліны: адзін скок доўгага, худога цела, у якім скрываецца дынаміт, і зубы ваўка замкнуліся на гарачым горле. Калі замкнецца воўчая пашча на жывым пульсе, не адкрыць яе дагэтуль, пакуль у целе будзе яшчэ жыццё. А ўсё ж такі, стары дзік, падаючы, сумеў падмяць пад сябе свайго ворага, наваліўся на яго і сканаў. Гэтак прыгожа паміраюць старыя дзікі — правіў дзед...

### ЗЛАРАДНАСЦЬ ЗУБРОЎ

Дзед яўна недалюбліваў зуброў. Зубр — гэта проста скаціна, гаварыў дзед і кожны раз сплёўваў за плячо. Усякага іншага звяра дзед называў ягонай назвай, або казаў аб ім «жывёліна». Прытым голас дзеда гучаў ласкава, пяшчотна. «...іду і бачу я: жывёліна, жывёліна...» А вось у слове «скаціна» — абыякавым, жорсткім скрываўся самы адмоўны, поўны пагарды сэнс. У дзеда былі аднак сваі ўласныя прычыны такіх адносін да караля пушчы. Дзед правіў, што асабліва ўпіўся яму ў косці адзін зубр, «Распуцін», як дзед яго пахрысціў. Якім спосабам дзед сумеў адрозніць «Распуціна» сярод дзесяткаў іншых зуброў, застанецца дзедавай, неразгаданай таямніцай...

Знаёмства дзеда з гэтым асаблівым звярам пачалося неяк зімой. Дзед ляжаў на печы і час ад часу ўглядаўся ў акно, за якім ад панадворку і хлявоў рассцілаўся, аж па абсыпаны снегам лес, белы, снегавы дыван. Дзед любіў гэтакія кантрасты: глыбокі снег, траскучы мароз, і цёплая, добра натопленая печ! Вось бы яшчэ вясёлую кампанію, пры якой і не жаль пацерабіць язык на некалькіх лясных гісторыях! Дзед доўга не пацешыў вока і думкі не пайшлі вядомым шляхам: за панадворкам, крыху ў бок хлявоў, падняўся і заварушыўся дзедаў стог. Дзед вытрашчыў вочы: ветру ні следу! «Што ж гэта за нячыстае...» — падумаў уголас дзед і спусціў з печы ногі. Калі стог ізноў заварушыўся, а потым прыпадняўшыся пайшоў у напрамку двара — дзед маланкай апынуўся ля самага акна. А стог ішоў, або дакладней кажучы сунуўся роўна і спакойна да двара, быццам жывы. Дзед мігам ускочыў у боты і апынуўся на двары. У той самы час стог рас-

(Працяг на стар. 4)

ЯША БУРШ

## ЗВЕННІ

Я звяном
паміж мінуласцю будучыняй
турбота
каму дазволю
за сябе зачапіцца
ад майго звяна
разыходзіцца
рытміка пытанняў
у наваколле
маё звяно
згушчае
шматкратнасць уяўлення
будучыні
якая ж будзе гармонія
наступнага звяна

В. ШВЕД

## Ходзяць месяцы па свеце

### СТУДЗЕНЬ

Студзіць, студзіць
Месяц студзень.
На санках мароз
Новы Год прывёз.

### ЛЮТЫ

Ідзе марозны люты
Апрануты, абуты.
Яго магутны крок
Даносіцца здалёк.

### САКАВІК

Сакавік, сакавік,
Набраў вады ў чаравік.
Снег лужамі плача:
Мой канец, няйначай...

### КРАСАВІК

Толькі глянуў красавік,
Снег апошні цалкам знік.
Шле вясна сваю красу,
Расплятаючы касу.

### МАЙ

Май, прыгожы май
Луг уквеціў, гай.
І з галінак дрэў
Сыпле птушак спеў.

### ЧЭРВЕНЬ

Чэрвень, чэрвень,
Зелень, чырвань.
Песціць зямлю сонца
Цеплынёй бясконцай.

### ЛІПЕНЬ

Месяц летні ліпень
Сее водар ліпы
І на нівах спеліць
Збожжа ля аселіц.

### ЖНІВЕНЬ

Ураджайны жнівень
Выехаў на нівы
І праводзіць дбайна
Ён жніво камбайнам.

### ВЕРАСЕНЬ

Клапатлівы верасень
Апрануўся верасам.
Ён прынёс у сад
Свежых фруктаў шмат.

### КАСТРЫЧНІК

Зашумеў кастрыцай
Асенні кастрычнік.
На кашулі ён
Трэпле жоўты лён.

### ЛІСТАПАД

Сумны лістапад
Агаліў лес, сад.
Апошні лісток
На галіне змок.

### СНЕЖАНЬ

Снежань, снежань
Сняжок свежы
Сыпнула зіма.
Сумаваць дарма!

## Скажы, ці дрэўца пасадзіў ты?

Напэўна ў час дажджу ці спёкі
Пад дрэва кронаю шырокай
Спыніцца любіш, потам зліты.
Скажы, а дрэўцы пасадзіў ты?

Любіш ісці такой дарогай
Дзе паабапал дрэваў многа.
Любіш. Таму вось менавіта
Скажы, ці дрэўцы пасадзіў ты?

Гоман і мілы спеў птушыны,
Што рэхам льецца па галінах
Ловіш заўсёды прагавіта.
Скажы, а дрэўца пасадзіў ты?

Прыемна — згодзен я з табою —
У садзе асенняю парою
Спажыць шмат фруктаў сакавітых.
А дрэўца, дружа, пасадзіў ты?

Любіш ты апынуцца ў гушчы
Вялікай, шматвяковай пушчы.
Быць ад малін ці ягад сытым.
Скажы, а дрэўца пасадзіў ты?

Жывеш штодзённа, мілы браце,
У смаляной драўлянай хаце.
Твой стол і ложак з дошак збіты.
Скажы, а дрэўца пасадзіў ты?

У навагодні дзень святочны
У тваім доме відавочна
Ёлка з'яўляецца з візітам,
Скажы, а дрэўца пасадзіў ты?



 




ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 45 (406) 7 лістапада 1965 г.



# СТУПЕНЬКІ

Аднойчы Пеця вяртаўся з дзіцячага садзіка. У гэты дзень ён навучыўся лічыць да дзесяці. Дайшоў ён да свайго дома, а яго малодшая сястра Валя чакае ўжо ля варот.

— А я лічыць умею! — пахваліўся Пеця. — У дзіцячым садзіку навучыўся. Вось паглядзі, як я зараз усе ступенькі па лесвіцы пералічу.

Сталі яны паднімацца па лесвіцы, а Пеця ўголас ступенькі лічыць:

— Адна, дзве, тры, чатыры, пяць...

— Ну, чаго ж ты спыніўся? — пытаецца Валя.

— Пачакай, я забыўся, якая далей ступенька. Зараз успомню.

— Ну, успамінай, — кажа Валя.

Стаялі яны на лесвіцы, стаялі. Пеця кажа:

— Не, я так не магу ўспомніць. Давай пачнём спачатку.

Сышлі яны з лесвіцы ўніз. Сталі зноў наверх паднімацца.

— Адна, — кажа Пеця, — дзве, тры, чатыры, пяць... І зноў спыніўся.

— Забыў? — пытаецца Валя.

— Забыў! Як жа гэта? Толькі што памятаў і раптам забыўся. Яшчэ паспрабуем.

Зноў спусціліся з лесвіцы, і Пеця пачаў спачатку:

— Адна, дзве, тры, чатыры, пяць...

— Можа дваццаць пяць? — пытаецца Валя.

— Ды не! Толькі думаць перашкаджаеш! Вось бачыш з-за цябе забыўся! Прыйдзецца зноў спачатку.

— Не хачу я спачатку! — кажа Валя. — Што гэта такое? То наверх, то ўніз, то наверх, то ўніз! У мяне ўжо ногі баляць.

— Не хочаш, не трэба, — адказаў Пеця. — А я не пайду далей, пакуль не ўспомню.

Валя пайшла дамоў і кажа маме:

— Мама, там Пеця на лесвіцы ступенькі лічыць: адна, дзве, тры, чатыры, пяць, а далей не памятае.

— А далей шэсць, — сказала мама.

Валя пабегла назад да лесвіцы, а Пеця ўсё ступенькі лічыць:

— Адна, дзве, тры, чатыры, пяць...

— Шэсць! — шэпча Валя. — Шэсць! Шэсць!

— Шэсць! — узрадаваўся Пеця і пайшоў далей. — Сем, восем, дзевяць, дзесяць.

Добра, што лесвіца скончылася, а то ён так і не дайшоў бы да дому. Таму, што навучыўся толькі да дзесяці лічыць.

**Пераклад з рускай мовы**



Куток калекцыянера

## МАРКІ РАСКАЗВАЮЦЬ

Альбом паштовых марак можна разглядаць з такой жа цікавасцю, як і чытаць мастацкую кнігу. Для гэтага трэба ведаць, калі выпушчана кожная марка, якая падзея адлюстравана на яе малюнку.

Перад намі — паштовыя маркі, прысвечаныя Савецкай Арміі. На трох з іх вы бачыце партрэты герояў грамадзянскай вайны М. Н. Тухачэўскага, В. К. Блюхера і Я. Ф. Фабрыцыуса.

Што вы ведаеце пра гэтых выдатных палкаводцаў? Якой буйнай ваеннай аперацыяй камандаваў Тухачэўскі? (План яе намаляваны на фоне маркі). Імем Яна Фабрыцыуса названа адна з вуліц Мінска. З якімі надзеямі гэта звязана? На марцы, прысвечанай В. К. Блюхеру, намаляваны эпізод штурму Валачаеўскага сопкі. У якім годзе гэта было?




Унізе — маркі з партрэтамі герояў Вялікай Айчыннай вайны: праслаўленага генерала І. В. Панфілава, лётчыка Б. Сафонава, радавога А. Матросава, сяржанта У. Авецісяна.

Назавіце кнігі і кінафільмы, у якіх расказваецца пра іх подзвігі.



## Падумай і адкажы:

1. Чаму па дарогах ездзяць па правым баку, а ходзяць па левым?
2. Як трэба ўпэўніцца ў адсутнасці набліжаючыхся машын пры пераходзе вузкіх і шырокіх вуліц або дарог?
3. Чаму вуліцу пераходзяць на скрыжаваннях?
4. Як вызначаць, куды паварочвае аўтамабіль, што набліжаецца да скрыжавання?
5. Чаму нельга адразу спыніць аўтамабіль?
6. У якім напрамку дазваляецца рух транспарту пры зялёным сігнале святлафора?
7. Што абазначае жоўты сігнал святлафора?
8. Навошта патрэбны на вуліцах і дарогах знакі і ўказальнікі?
9. Дзе дазваляецца ездзіць на дзіцячых веласіпедах?
10. Па якім баку вуліцы (дарогі) і на якой адлегласці ад тратуара або ўзбочыны дазваляецца ездзіць на веласіпедах?
11. Як павінен паступіць веласіпедыст, калі яму трэба павярнуць налева або развярнуцца ў зваротным напрамку?
12. ЯКІЯ ТУТ ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ ПАРУШАНЫ?

## Дзед Васіль

Жыў на свеце
Дзед Васіль.
Рэшатам ваду
Насіў,
Даставаў нагамі
Столь,
У кісель
Ён сыпаў соль,
Цукар клаў
У халадзец,
З малаком
Еў селядзец.

Быў дзядуля
Не дзівак,
А рабіў ён
Проста так
Дзеля жарту,
Дзеля штукі,
Каб смяяліся
Унукі.

Валянцін Бычко

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka". BZGraf. C-8

Пятро Глебка

## Слава Кастрычніку

Веліч і слава яго не ўмірае,
Шчодра ён дорыць набыткі свае:
Шчасце калыску дзіцяці люляе,
Праца багаццем людзей надзяляе,
Подзвіг Радзімы бяссмерце дае.

Біліся доўга за гэтае права,
Цяжка яно здабывалася нам.
Слава ж Кастрычніку, вечная слава,
Слава яго змагарам!

(фрагмент)

Паглыбляй свае веды

## Афрыканскі бык



Яго сапраўдная радзіма — Паўднёвая Афрыка, але прывезены адтуль жыве ў заапарках Еўропы. Так цікава выглядае.

(вл)



**ДАРАГАЯ «ЗОРКА»**

Пазнаём «Зорка» нас з сябрамі і сяброўкамі з іншых вёсак. Мы вучымся ў пятым класе.

Марыся Раманюк
Валянціна Дзянісюк
вёска Кожына
пошта Пасынкі

## Пяньком

шым братам сямікласнікам Янкам і малодшым братам першакласнікам Валодзем.

У гэтым годзе многія дзеці сталі зухамі. Для іх адкрылася новая старонка цікавых спраў. Памятайце, «Зорка» вельмі чакае пісем ад вас. Дзе былі, якія спраўнасці здавалі, хто быў найлепшы? Пішыце, вельмі чакаю.

«ЗОРКА»



Ларыса Амбражэй вучаніца 4 класа школы ў Пяньках. Больш аб гэтай школе прачытаеш на стар. 6.



У час перапынку.



На гарызантальнай марцы — адзін з самых прыгожых куткоў сталіцы беларускай рэспублікі. Калі ўзведзены абеліск, які падзвіг беларускага народа ўвекавечыў ён?

Адказы на пытанні прысылайце ў рэдакцыю. Напішыце падрабязна пра свае калекцыі. Што вы збіраеце? Як маркі, паштоўкі, манеты, канверты памагаюць вам пашырыць веды па геаграфіі, гісторыі, літаратуры?

Пра якія віды калекцыяніравання хацелі б прачытаць на старонках часопіса?

## Пару слоў аб дзецях



Шура Грэсь са сваімі выхаванцамі — трусамі.

Вёска Пянькі складаецца з масы хутароў. Дзецям даводзіцца хадзіць у школу за два, тры, а то і пяць кіламетраў. Кожную раніцу яны адмерваюць палямі, лугамі, прамежкамі гэтыя кіламетры і палюбілі сваю аколіцу, яе прыроду. Адна рэч хадзіць у паасобку, а зусім інакш цэлым класам або нават усёй школай. Тады і весела, і цікава, і настаўнікі шмат розных рэчаў пакажуць і аб многім раскажуць. Экскурсіі ў лес — гэта найпрыемнейшая рэч для пянькоўскіх дзяцей.

У верасні, як толькі пайшлі ў школу, пайшлі ўсе разам у лес, каб занесці кветкі на магілкі невядомых салдат, упарадкаваць і ўпрыгожыць гэтыя святыя месцы на нашай зямлі.

У кастрычніку пайшлі ўсе разам па грыбы. Назбіралі шмат і вечарам у кожнай хаце пахла смажанымі грыбамі.

Кожны школьнік мае свае зацікаўленні. Напрыклад, Галя Канончук добра вучыцца ў 1 класе і найлепш з усяго класа ўмее клеіць домікі. Ларыса Амбражэй з 4 класа вельмі любіць маляваць. Яна нават намалявала сваю школу і прыслала ў «Зорку». Шкада толькі, што ў «Зорцы» нельга паказаць усіх колераў, якія былі на малюнку.

А Шура Грэсь мае аж 19 трусоў. Даглядае іх разам са сваім старэй-



## Для самых маленькіх



## ТОЛІКАВЫ ПАЛАЧКІ

Настаўніца сказала першакласнікам, каб заўтра на ўрок арыфметыкі кожны прынёс дзесяць палачак — будуць вучыцца складаць да дзесяці.

Дома Толік папрасіў маму купіць яму лічыльныя палачкі.

— А ці прадаюць іх? — спытала маці.

— Прадаюць. Я ведаю дзе. Хадзем.

І Толік прывёў маці ў кандытарскі магазін.

— Няўжо ёсць тут лічыльныя палачкі!? — здзівілася маці.

— Ёсць. Вунь цукеркі на палачках. Купі мне.

Маці ўсміхнулася і купіла Толіку дзесяць цукерак — лізакаў.

Дарогай Толік смактаў цукерку і думаў, што арыфметыка добрая навука. Хутчэй бы яны пачалі вучыцца лічыць да ста. Колькі б палачак тады спатрэбілася!

Васіль Хомчанка

# ALMA MATER BIALOSTOCENSIS

### 15 ГОД НАЙВЫШЭЙШАЙ СЛУЖБЫ

За намі новая вялікая ўрачыстасць: пачатак навучальнага года ў Медыцынскай Акадэміі. Урачыстасць тым большая, што Беластоцкая МА святкавала і 15-годдзе свайго існавання. Юбілей не благі. У сувязі з ім мы апублікуем спецыяльнае інтэрв'ю з рэктарам Акадэміі. Сёння некалькі дадзеных.

Беластоцкая МА мае 28 кафедраў — 14 тэарэтычных і 14 клінічных, 3 студыі, 3 навуковыя лабараторыі; 10 прафесараў і 14 дацэнтаў кіруе імі.

Выдала за 15 год 1615 лекарскіх дыпломаў. Зараз вучыцца ў ёй 1795 студэнтаў, з гэтага палавіна — з ваяводстваў Беластоцкага і Ольштынскага.

У нашай МА 115 асоб атрымала ступень доктара медыцыны. 80 асоб зараз рыхтуецца да абароны доктарскіх прац.

Навуковыя працаўнікі МА апублікавалі 1500 прац у краіне і за граніцай. 300 новых у апошнім годзе прынята да друку.

Бібліятэка Беластоцкай МА мае 125 тысяч кніг і 16 тысяч часопісаў з 1000 загалоўкамі. Вядзе абмен са 123 навуковымі цэнтрамі ў краіне і 282 за граніцай у 53 краінах.

Акадэмію адведала 70 вучоных з усяго свету, якія ўдзельнічалі ў многіх міжнародных з'ездах і сімпозіумах арганізаваных у нас.

На юбілеі 15-годдзя прысутнічаў **міністр здароўя Ежы Штахельскі** — доктар «honoris causa» Беластоцкай МА.

У актавай зале Акадэміі адбылася юбілейная сесія прысвечаная 15-цігоддзю існавання школы.

Заканчэнне ўрачыстасці было ўзнёслае і памятнае. Пастановай Сената Медыцынскай Акадэміі імя Юльяна Мархлеўскага ў Беластоку прысвоена званне доктара «honoris causa» **праф. др Тадэвушу Келяноўскаму** — першаму рэктару і фактычнаму арганізатару Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі. (вл)



За добрую працу ў службе здароўя многім працаўнікам Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі міністр Ежы Штахельскі ўручыў адзначэнні.



Праф. др мед. Тадэвушу Келяноўскаму шчырыя пажаданні з выпадку прысваення звання доктара «honoris causa» Беластоцкай МА складае праф. др Якуб Хлябоўскі.

Фота Я. Мазурэк

## Кожны член ЗМВ—чытачом бібліятэкі

У кастрычніку адбылася ў Варшаве агульнакраёвая нарада на тэму супрацоўніцтва бібліятэкі і ЗМВ. Гаварылася аб развіцці чытальніцтва сярод вясковай моладзі. Было сказана, што адным з галоўных заданняў ЗМВ павінна быць праца з кнігай. Лозунг нарады «Кожны член ЗМВ — чытачом бібліятэкі» напэўна зчасам прыме аблічча чыну.

У нас на Беласточчыне сувязь бібліятэкі з ЗМВ існуе даволі жывая. На 2.144 бібліятэчных пунктаў 610 вядуць члены ЗМВ. 105 грамадскімі бібліятэкамі кіруюць таксама члены ЗМВ.

ЗМВ арганізуе навучанне бібліятэкараў, у бягучым годзе 2 курсы, робіць спатканні з аўтарамі. (вл)

## ЛОК

На Беласточчыне існуе больш паўтары тысячы гурткоў Лігі абароны краіны (ЛОК), у якіх згуртавана амаль шэсцьдзесят тысяч асоб. Палова гэтых гурткоў ЛОК знаходзіцца ў вёсках. Напрыклад, у Бельскім павеце існуе 32 гурткі, якія згуртоўваюць 625 асоб. Школьныя гурткі ЛОК згуртоўваюць 666 вучняў. Падобна выглядае ў Дуброўскім павеце, дзе ў гуртках ЛОК таксама больш школьнай чым вясковай моладзі.

Варта дадаць, што ў сучасны момант у кожным павеце існуюць матаровыя клубы, клубы сувязістаў і клубы афіцэраў рэзервы. (ся)

## ГС і гандлюе і... гадуе

ГС у Нараўцы слушна дайшоў да вываду, што яго абавязкам ёсць не толькі гандляваць таварамі, але, так сказаць, і гадаваць тавары. ГС даволі ўдачліва вядзе рыбную гадоўлю ў мясцовых ставах.

Такім чынам будзе сапраўды свежая рыба для сваіх кліентаў, бо давозіць рыбу з далёкіх рыбных гаспадарак — гэта і кошт, і турботы.

Удачлівая нараўкаўская рыбная гадоўля, відаць, заахвоціла Гайнаўскі ПЗГС шырэй заняцца гэтай «рыбнай праблемаю». Як паведаміў нас асабіста прэзас ПЗГС Кастусь Майсеня, ёсць намер наладзіць рыбную гаспадарку ў даўно пакінутых ставах каля вёскі Кандраткі, што знаходзіцца ў ваколіцы чыгуначнай лініі Гайнаўка - Цісоўка.

Сваёй дарогаю, дзівуем, як гэта не дадумаўся да такога «бізнесу» Беластоцкі ПЗГС, бо ж кандратаўскія ставы знаходзяцца на тэрыторыі ўжо Беластоцкага павета. (?) (ся)

# Atrakcyjny konkurs „NIWY" dla zbierających prenumeratę na 1966 r.

### REGULAMIN KONKURSU

**1. W konkursie mogą brać udział wszyscy pracownicy Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki „Ruch" oraz doręczyciele pocztowi (listonosze) i inni prac. pocztowi.**

**2. Konkurs trwać będzie do dnia 15 grudnia 1965 r.**

**3. Warunkiem uczestniczenia w konkursie i zakwalifikowania się do udziału w przyznaniu nagród jest zdobycie każdej następnej rocznej prenumeraty tyg. „Niwa' od stanu pisiadanego przez daną placówkę na dzień 1.X.1965 r.**

**4. Do ubiegania się o nagrodę będą mieli prawo uczestnicy konkursu, którzy nadeślą do organizatorów konkursu tj. Redakcji tyg. „Niwa' lub Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki „Ruch" do dnia 30 grudnia br. kartę uczestnictwa wg. załączonego wzoru — potwierdzoną przez upt. lub kierownika Oddziału (Delegatury) „Ruch".**

**5. Pierwsze 3 nagrody zostaną przyznane tym uczestnikom konkursu, którzy zdobędą co najmniej 50 nowych rocznych prenumeratorów. Wszyscy pozostali uczestnicy konkursu wezmą udział w losowaniu 10 cennych nagród rzeczowych.**

**6. Organizatorzy ustalają następujące nagrody:**

## I — 1000 zł
## II — 800 „
## III — 600 „

**Ponadto ustala się 10 nagród do rozlosowania w wysokości od 150 do 350 zł.**

**7. Dla Dyrektora OUPIT lub kierownika Oddziału (Delegatury) „Ruch", na terenie którego uczestnicy konkursu przyjmą największą liczbę nowych rocznych prenumerat Redakcja tyg. „Niwa" ufunduje po 1 specjalnej nagrodzie.**

**8. Wszystkie nagrody wręczone zostaną uczestnikom konkursu w postaci bonów towarowych.**

**9. Oceny i podsumowania wyników konkursu dokona komisja, w skład której wejdą przedstawiciele Red. tyg. „Niwa", PUPiK „Ruch' i OUPiT.**

**10. Ogłoszenie wyników konkursu nastąpi do dnia 15. I.1966 r.**

### KARTA UCZESTNICTWA

**w konkursie na roczną prenumeratę tyg. „Niwa"**

Imię i nazwisko ..........

Rodzaj pracy: doręczyciel, prac. poczt., prac. „Ruchu", Urząd. PT (Oddz.-Deleg. „Ruch" (niepotrzebne skreślić)

w .......... pow. ..........

Zawiadamiam, że w okresie do dnia 15.XII.1965 r. zjednałem następującą ilość rocznych prenumeratorów na 1966 r.

..........

Stan prenumeraty na terenie mojego działania wynosił w dniu 1.X.1965 r. .......... egz.

..........
(podpis uczestnika)

Potwierdza się, że powyższe dane zgodne są z rzeczywistością i zostały przyjęte do realizacji.

.......... dnia ..........

..........
podpis i pieczęć OUPiT(upt) lub kierownika Oddz. (Deleg.) „Ruch"

# ЦІ І ТВОЙ ВУЧЫЦЦА?

(Працяг са стар. 1)

**чатырохкласная перадваенная школа альбо пасляваенныя курсы для непісьменных, альбо проста навучыліся расшыфроўваць назвы шыльдаў, перасцерагальных надпісаў і ўбогія моваю ўсялякія фінансавыя квіты. Інж. М. Лявіцкі налічыў каля 70 такіх асоб. Многія з гэтай семдзесяткі не такія старыя, іх узрост набліжаецца да саракоўкі і нават крыху вучыліся яны ў вясковых школах, але потым пакінулі. Маюць працу, маюць сем'і і гэтым задавальняюцца. Угаворы наконт таго, каб пачалі яны вучыцца ў вечаровай пачатковай школе, а затым у прафесіянальнай школе і, мабыць, у тэхнікуме не заўсёды робяць на іх патрэбнае ўражанне, хаця ўжо адчуваюць, што без далейшай навукі няма што думаць аб лепшых перспектывах на будучыню, аб лепшых заробках. Пацяшаючым з'яўляецца факт, што такое адчуванне ўмацоўваецца ў гэтай групе рабочых і ёсць некаторая пэўнасць, што хутка возьмуцца за вучобу. Штогод фабрычную вечаровую пачатковую школу канчае каля пятнаццаці рабочых. Тыя, што раней злаваліся на інжынеравы ўгаворы п. Лявіцкага, цяпер дзякуюць яму, разумеюць яго дабразычлівасць.**

**На гэтым канчаю свой расказ аб радасцях і турботах «акадэміі» інжынера Мечыслава Лявіцкага. Не магу прамаўчаць просьбы некаторых выхаванкаў гэтай «акадэміі», маіх землякоў з Сакольшчыны, якія вельмі хочуць, каб наведала іх беларуская эстрада «Лявоніха». Калісьці яна была тут адзін раз і ўсім надта прыпалася да спадобы.**

**З другімі формамі дзейнасці БГКТ тут, на жаль, ніхто не сустрэўся. Бачылі толькі «Лявоніху».**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

Дні савецкага фільма



## Шолахаў на экране

Такая вестка тым больш стаецца актуальнай і цікавай, што аб Шолахаву голасна цяпер у свеце. Ён — лаўрэат нобелеўскай прэміі літаратуры за 1965 год. Прыпомнім: яго творы выйшлі ў тлумачэнні на 73 мовы свету. «Ціхі Дон» і «Лёс чалавека» выдаваліся ў розных краінах па некалькі дзесяткаў разоў. У Польшчы кнігі Шолахава мелі 27 выданняў агульным тыражом 800 тыс. экземпляраў.

Фільмы зробленыя паводле «Ціхага Дону» і «Лёсу чалавека» мы бачылі. У сёлеташніх «Днях савецкага фільма» ўбачым «Чужую кроў». Ніжэй фота з гэтага фільма. (вл)

У свеце музыкі

### КАНЦЭРТ ДАЛУХАНАВАЙ

Зара Далуханава спявала ў зале кінатэатра прафсаюзаў у Беластоку. Незвычайная гэта спявачка і незвычайны яе канцэрт. Бадай найбольш трапна ацаніла спеў Далуханавай «Жыццё Варшавы» сцвярджаючы, што Далуханава спявае кожнаму асобна, ствараючы такім чынам атмасферу інтымнасці з кожным са сваіх слухачоў.

### НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ МЕЛОДЫІ...

...оперы і аперэты ў выкананні салістаў і Беластоцкага сімфанічнага аркестра ў Беластоку. Аркестрам дырыжыраваў Станіслаў Маляўка.

*

З выпадку Месяца польска - савецкай дружбы гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі 6 лістапада выступіць у Беластоцкім тэатры са спецыяльнай святочнай праграмай Беластоцкі сімфанічны аркестр з калектывам «Курпе Зялёнэ». (вл)

 

# НАД НЯВОЮ

Ленінград распалажан на астравах дэльты ракі Нявы. Астравоў у Ленінградзе 100. Апрача Нявы перасякае Ленінград звыш 65 рэк і каналаў, 100 азёр і сажалак. І таму аж 620 мастоў.

Ленінград — горад навукі: 50 вышэйшых навучальных устаноў, чвэрць мільёна студэнтаў, 400 навукова - даследчых інстытутаў і канструктарскіх бюро, 25 тысяч навуковых працаўнікоў.

Ленінград — усесаюзная лабараторыя новай думкі і новай тэхнічнай практыкі: першы савецкі трактар (1925), першая паравая турбіна (1924), першы блюмінг (1931) збудаваны ў Ленінградзе. І ў апошні час — першы атамны ледакол «Ленін» (1959).

Ленінградскія зімы цёплыя як у Астрахані, хоць горад ляжыць далёка на поўначы. У гарадскіх хроніках знойдзем такі запіс: у снежні 1739 года прыдворная «маскарадная камісія» па капрызу царыцы Анны прыступіла да будовы лядовага палаца на Няве, які быў збудаваны і пры якім уставілі гарматы з лёду, і стралялі з іх кулямі з лёду. Будоўля стаяла да сакавіка наступнага года. Але такія зімы бываюць рэдка. Бо Ленінград знаходзіцца пад уплывам цёплых мас паветра з Атлантычнага акіяна. Летам над Ленінградам інтэнсіўна грэе сонца палярнага дня. Адсюль і слаўныя цудоўныя ленінградскія «белыя ночы».

### ГІСТОРЫЯ

Яна маладая. Пачынаецца ад 1703 года, калі Пётр І, каб умацавацца над Балтыйскім морам, прыказаў пабудаваць крэпасць, якую назвалі Санктпіцерх. Да крэпасці дабудавалі царкву Пятра і Паўла (таму цяперашняя Петрапаўлаўская крэпасць). Горад, які пачаў разрастацца вакол крэпасці, назвалі Санкт-Пецярбург

Ленінград — першая сталіца царызма і калыска Сацыялістычнай рэвалюцыі. Які цікавы скок.

Сацыялістычны Ленінград даў Савецкаму Саюзу вялікіх вучоных, кампазітараў, рэжысёраў, акцёраў, пісьменнікаў.

На павярхоўны агляд эрмітажа трэба найменш два дні. І будуць гэта дні надта працавітыя. Аднак усё роўна не пабачыцца ўсяго, у гэтым найбагацейшым у свеце прыбытку мастацтва.

Ленінградцы маюць нейкі свой стыль, сваё пачуццё прыгожага. У гэтым горадзе з вялікімі рэвалюцыйнымі традыцыямі трыбун на гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія прымыкаюць да сцен Зімняга палаца, нікому ў галаву не прыдзе маляваць на чырвоны колер. Трыбуны робяцца на падабенства архітэктуры і колеру палаца — зялёнашэрыя сцены і белыя калоны.

### УСПОМНІМ БЛАКАДУ

Аб Ленінградскай блакадзе многа моцных слоў. Фактычна, нешта незвычайнае скрываецца ў факце. што ленінградцы адрэзаныя ад свету, пад пастаянным агнём ворага, не здаліся, пражыўшы ў галодным і халодным горадзе 2 гады 6 месяцаў.

Голад... Велічыню яго ў акружаным горадзе цяжка ўявіць. Аднак вядома, што экспанатаў з Ленінградскага «Музея зярна» — нягледзячы на такі голад, ніхто не крануў.

Ленінград зараз амаль не мае драўляных будынкаў: усе ў час блакады былі разабраны і спалены. Але таго, што мела нейкую гістарычную, музейную вартасць ніхто не крануў. Расказваюць, што да акцыі аховы забыткаў нікога не трэба было заахвочваць. На высокія купалы помнікаў улазілі выхудлыя студэнткі і ленінградскія альпіністы, каб памаляваць іх ахоўным шэрым колерам.

У самы цяжкі перыяд блакады на замёрзшым возеры Ладога пры самай лініі фронту людзі збудавалі аўтастраду. «Дарогай жыцця» называлі яе ленінградцы. Ёю дастаўлялася ў галодны горад 7,8 тысяч тон ежы ў суткі. Ёю вывозілася на фронт і ў рэшту краіны ўсё, што выпускалі ленінградскія фабрыкі, якія не спынілі працы ні на адзін дзень. У 1942 годзе на цудоўных гарадскіх плошчах і скверах людзі залажылі 240 тысяч гароднінных дзялянак, якія адыгралі сур'ёзную ролю ў барацьбе з голадам. У гэты ж час не перасталі працаваць тры тэатры, 39 школ. Тут працавалі паэты. Шастаковіч тут пад бомбамі пісаў сваю цудоўную Сёмую сімфонію.

У час вайны і блакады немцы кінулі на Ленінград 150 тысяч цяжкіх артылерыйскіх снарадаў і многа тысяч бомб. Знішчылі больш 5-ці мільёнаў квадратных метраў жыллёвай плошчы. Спалілі і знішчылі зусім 3 174 будынкі, 7 143 — моцна пашкодзілі.

Зараз Ленінград поўнасцю адбудаваны.

Адзін з цікавейшых Ленінградскіх помнікаў старадаўнасці — Ісаакаўскі сабор: вышыня 101,5 метра, змяшчае 13 000 асоб адначасова. Цудоўны помнік мастацтва, будаваны на працягу 40 год. Пры будове застасавана 43 гатункі мінералаў мармуру. Унутры 382 разьбы, карціны.

фота Ю. Рыбінскі

ПАЛАЦОВАЯ ПЛОШЧА.

СМОЛЬНЫ.

ЗІМОВЫ ПАЛАЦ.

НА НЕЎСКІМ ПРАСПЕКЦЕ.

РУСКІ МУЗЕЙ.

---

Аляксей Карпюк

## ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

У камандзірскай зямлянцы толькі Чыгроў з радысткай. Шчасце, што ў нашай групе строга патрабуюць вайсковыя рытуалы і «добры дзень» магу не гаварыць.

— Таварыш капітан, радавы...

— Вольна. Сядайце.

Ужо і на «вы» перайшоў. Паверыў. Цяпер выціскае з сябе дозу прыхільнасці.

Чалавек — не кавалак матэрыі, якую можна спачатку абмацаць, паўзірацца добра на святло, ці няма дзірак, спытацца пра цану, тады ўжо шыць кашулю!

— Сядайце, сядайце, калі ласка, зараз пагутарым!

Каб хоць быў стары лейтэнант, які мяне тады судзіў. Робіцца млосна. Апускаюся на зэдаль.

Пакуль капітан перабірае паперкі, гляджу на радыстку, нібы на чужую. Яна чысціць дыск і глядзіць убок. Ага, няёмка?! Так табе і трэба! З яе твару нібы хто выцягнуў крыху красак і сокаў. Заўважаю, што зрабілася яшчэ больш непрыгожай. Гляджу з нянавісцю і пагардай. Ух, як хочацца пра гэта сказаць хоць вачыма! Пазбягае майго позірку, неўпапад трэ анучай пластмасавы круг. Пераношу позірк на капітана.

— Да мяне дайшла чутка, што вы арганізавалі яшчэ адну дыверсію...

На старанна паголеным і гладкім твары ліслівая ўсмешка. Ага, табе нешта ад мяне трэба! Адлягае ад сэрца, на камандзіра гляджу ва ўпор. Гладкі і масіўны падбародак выступае наперад, у цэнтры ямачка, нібы недарэчная дзірка. Пальцы, якімі трымае мой рапарт,



— тонкія, белыя. На галаве выразна выступае лысіна і цёмныя валасы толькі зверху, яны прыкрываюць голую мясціну, вакол яе тырчыць шэра-папялясты пух. Воўна афіцэрскага кажушка на адваротах — пухнатая, чысценькая. Калісьці мне ўсё гэта імпанавала.

Прыкідваюся, што не разумею, пра што ён пачаў гутарку.

— Поезд пусцілі пад адхон! — тлумачыць.

— Яго пускалі людзі з маёй вёскі, а не я! — заяўляю з выклікам.

— І гэта ведаю, — стараецца гаварыць дабрадушна. — Але ж, калі б не было на той час вас, хіба сяляне самі зрабілі б дыверсію?

— Не...

— Маеце поўнае права лічыць, што арганізавалі яе вы. Напішыце пра гэта падрабязны акт! Магчыма, вас яшчэ і да ўзнагароды прадстаўлю!

Права? Навошта яно мне! На судзе мы, ці што?.. Так і адчуваю ў сябе на грудзях бліскучы шоўк лентачак, серабро медаляў... Успамінаю непрыемнасці, якія зрабіў мне гэты чалавек. Чорта з два прадставіш! Хітруеш.

Не ведаю, што адказаць, маўчу. Галя борзда пастуквае дэталямі, складае іх і падаецца да выхаду. Калі пакідае зямлянку, робіцца сумна. Капітан адразу мяняецца, робіцца строгі.

— Мы — тэрмометры фронту. Дыверсіі не наша справа. Даваў я інструкцыю выкарыстаць тол толькі ў выключным выпадку?

— Давалі...

— Чаму не выканалі загаду?

Маўчу.

Капітан выцягвае фотаапарат, варожа пытаецца ў мяне:

— Гэта вам вядома?



Яшчэ б! Мішкавага «Кодака» ведае ў маёй вёсцы і малы, і стары, без яго не абыходзіцца ні вяселле, ні радзіны, ні мярліны.

— Для чаго ён узяў з сабой апарат?

— Мішка?.. Каб... Каб... фатограф... — даўлюся словам.

Дык вось у чым ён падазравае Марчыкавага сына!.. Халадзею. Мішка сядзеў пры буржуазнай Польшчы аж пяць гадоў у адзіночнай камеры гродзенскай турмы за збор разведданых для Савецкай краіны! Намерваюся кінуць у твар Чыгрову пераканаўчы аргумент. Ды раптам бачу, што ён мяне не зразумее.

— Я ведаю яго з дзяцінства!

— Няважна, што ведаеце. Вы болей года не жывяце ў сваёй вёсцы.

— Ну і што?

— Невядома, кім ён стаў за гэты час. Для нямецкай разведкі здымкі з Гута-Міхаліны — скарб! Разумееце?

Гаварыць так пра Марчыкавага сына, — значыць, абражаць жывых і мёртвых страшаўцаў, якія пазіравалі перад Мішкавым аб'ектывам. Агортвае страх перад гэтым чалавекам.

— Ладна, — пачынае мякчэй і шпурляе на нары апарат, як непатрэбную рэч. — Мы яго знішчым. А калі ўжо так здарылася ў вас з цягніком, аформіце як належыць!

— Аформлю, таварыш капітан!

— Вось чыстая папера. Тэрмін — да заўтра!

— Слухаю, таварыш капітан!

Чорт цябе бяры, з табой не дамовішся! Раблю выгляд твару пакорны, пра сябе злараднічаю: яшчэ ты





 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Гайнаўскія жанчыны

У Гайнаўскім павеце налічваецца 68 гурткоў вясковых гаспадынь, якія аб'ядноўваюць 1261 асобу. Гэтыя гурткі вядуць мнагагранную працу. Напрыклад, гурток вясковых гаспадынь у Арэшкаве на летні перыяд арганізаваў у вёсцы дзяцінец. Дзеці мелі належную апеку, калі ўсе дарослыя жыхары вёскі выходзілі да ўборкі збожжа.

Жанчыны з Семяноўкі арганізавалі дзецям пляцоўку іграў. Кошты ў суме 10 тыс. зл. звязаныя з абсталяваннем пляцоўкі па просьбе гуртка пакрыла Ваяводскае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў.

У Дубінах жаночая арганізацыя на адным гектары зямлі з дзяржаўнага фонда засеяла лён. Чысты даход з яго склаў суму 13 тысяч злотых. Апрача таго ўдзельнічалі яны ў конкурсе вырошчвання гародніны. Гэты конкурс карыстаўся вялікім поспехам сярод жанчын Пасталова, Скупава, Ставішчаў, Палоўцаў і Волькі Тэрэхоўскай.

У бягучым годзе апрацавана план дзейнасці гурткоў вясковых гаспадынь да 1970 года.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

## Як збудаваць святліцу?

А вось як пачынаюць будаваць святліцу і школу жыхары вёскі Чэхі Арлянскія. Грамадскім чынам навазілі жвіру і камення. Злажыліся ўсе жыхары вёскі (а ёсць іх больш 60-ці) па 200 зл. За гэтыя грошы купілі жужалю, вапны і цэменту. Жужаль прывезлі грамадскім чынам. Прывязуць таксама іншыя тавары, патрэбныя пры будове будынка. Усе работы нефаховыя жыхары вёскі забавязваюцца зрабіць самі, а іншыя дзяржава. Такім спосабам у Чэхах Арлянскіх будзе святліца і прыгожая школа. Ініцыятарамі пры будове з'яўляюцца Васіль Васілюк, Мікалай Герасімюк і солтыс Васіль Андрасюк.

**Міхась Самасюк**

## Прэч з чорнагалоўкаю

Ялёнкаўскія гаспадары — на Гайнаўшчыне — маюць каля 80 гектараў занядбанай пашы, на якой расце здзічэлая трава, так званая чорнагалоўка. Гэты абшар змеліяравана і пачнецца загаспадараванне яго.

Такім чынам Ялёнка зможа больш трымаць быдла таксама і ў вясенне-летні час, бо будзе куды выгнаць на пашу. Дагэтуль сітуацыя з гадоўляю ў Ялёнцы выглядала даволі дзіўна: тут маглі больш трымаць быдла зімою чым летам. Вёска мае шмат сенажацяў, але аж у нізінах далёкай ракі Нурэц; мае шмат травы, але на зіму.

Цяпер ужо будзе дзе пасці быдла перазімаванае на сакавітым нурэцкім сене.

(ся)

## Рамонт

Вельмі многа работы маюць вучні пачатковай школы ў Чэхах Арлянскіх пры рамонце кармушак птушкам на зіму. Вучні пры дапамозе настаўнікаў кожны год расстаўляюць кармушкі і цэлую зіму кормяць птушак. Спачуваюць яны птушкам, што ім вельмі цяжка жыць зімою. Такую ініцыятыву павінны падняць вучні ўсіх школ.

**Міхась Самасюк**
в. Чэхі Арлянскія

## Як хадзіць і ездз'ць?

Шафёрскія курсы арганізаваныя ЛОК-ам закончыла за апошнія два гады 2.509 асоб з усяе Беласточчыны. Курсы на аматарскае права язды закончыла 12.567 асоб, а курсы аб правілах дарожнага руху — 132.491 асоба.

У Бельскім павеце курсы аб правілах дарожнага руху для гаспадароў закончыла ў 1964 годзе 8.215 асоб, у Гайнаўскім павеце — 3.456 асоб, у Сакольскім — 6.551 асоба, у Дуброўскім — 4.392 асобы. (ся)

## Дзіцячыя атракцыі

На школьным дзядзінцы ў вёсцы Валілы ёсць розныя атракцыі для дзіцячай гульні — каляровыя драбіністыя коміны, гушкалкі і т.п. Прыемна!

(ся)

## Тры найлепшыя

СОП-аўская спулдзельчая каса ў Кляшчэлях мае больш васьмісот ашчадных кніжачак, у сярэднім па 3.200 злотых укладу на кожнай з іх.

Амаль дзвесце гэтых кніжак належыць да вясковых гаспадынь, якія ашчаджаюць незалежна ад сваіх мужоў. Вядома, найбольш ашчадных кніжак маюць кляшчэлеўцы. У вёсках найлепш ашчаджаюць у Жуках, Сухавольцах і Тапарках.

(ся)

## Урачыстасць у Малініках

17.X.65 г. у зале пачатковай школы ў Малініках адбылася акадэмія з нагоды XXII гадавіны заснавання Войска Польскага. Ганаровымі гасцьмі акадэміі былі: кіраўнік школы Сцяпан Бурыла і прадстаўнік павятовых улад БГКТ Ян Шурбак. Член малініцкага гуртка БГКТ адчытаў рэферат. Пасля заканчэння афіцыйнай часткі акадэміі пачалася падрыхтаваная праз моладзь вёскі мастацкая частка, на якую склаліся вайсковыя песні, вершы і інсцэнізаваныя гумарэскі. Пасля мастацкай часткі пачалася танцавальная вечарына. У зале панавала вельмі прыемная атмасфера. Усяму кіраваў музыкант Сцяпан Капа.

**Мікола Іванчук**

## Нарэшце!

У вёсцы Тапаркі доўга стараліся пра сваю святліцу. Нарэшце выстараліся і маюць яе. Хаця не зайздросная яна, пераробле용 з вясковай хаты, але ўсё ж свая. Застаецца толькі аздобіць яе, упарадкаваць і падумаць аб належным выкарыстанні.

Святліца ў вёсцы — гэта не толькі месца вясковых сходаў кліканых солтысам, але таксама месца культурнага жыцця — разрыўкі, мерапрыемстваў, цікавых сустрэч з цікавымі людзьмі з шырокага свету.

Баюся, каб тапаркоўскую святліцу не напаткаў лёс святліц у Гаркавічах на Сакольшчыне, альбо ў Семяноўцы за Нараўкаю. Гніюць яны, вятрэюць і валяцца, ніхто больш не дбае пра іх.

(ся)

## Як вёска ашчаджае

Яшчэ ў пачатку 1960 года ў Польшчы ва ўсіх касах СОП было 268 тысяч ашчадных кніжак на суму аднаго мільярда злотых. А ў 1964 годзе ўсе СОП-ы мелі ўжо амаль тры мільёны ашчадных кніжак і ашчадна-разлікавых рахункаў на суму больш сямі мільярдаў злотых.

У бягучым годзе СОП-ы далі пазыкі для двух з паловай мільёнаў гаспадароў. (ся)

## У тэатрах Беластока

У сезоне 1965/66 Беластоцкі драматычны тэатр імя А. Вянгеркі дасць 14 пастановак. На некаторыя чакаем з вялікім зацікаўленнем. Будуць: А. Міцкевіча «Дзяды», А. Камю «Калігула» (рымскі імператар пачатку новай эры), Шэкспіра «Рамэа і Джульета», Фрэдры «Муж і жонка» — камедыя.

Кукальны тэатр «Свершч» паставіць: «Легенду пра прыгожую гару», «Жаваранка», «Байку пра заклятага качара». (вл)




**Дарагое Сэрцайка!**

Я скончыў 15 год. Год таму назад закончыў пачатковую школу ў нашай вёсцы. Вельмі хацеў бы служыць у войску як добраахвотнік.

Парай Сэрцайка, куды мне трэба звярнуцца з гэтай справай. А ці гэта магчыма ў маіх гадах?

**Генік**
з Беластоцкага павета.

Дарагі **Генік!**

На жаль ты яшчэ замалады і вымушаны будзеш пачакаць пару гол. Гэта справа можа цікавіць і іншых хлопцаў, таму падаем іменна ўмовы прыняцця ў добраахвотную вайсковую службу. З гэтай справай мы звярнуліся ў Вайсковую камэнду рэянову ў Беластоку, дзе нам адказалі, што каб быць прынятым у добраахвотную вайсковую службу трэба мець закончаныя 18 год жыцця. Ад 1965 года прымаецца таксама ад 17 года жыцця на 5-цігадовую вайсковую службу. 2 гады — гэта нармальная чыннач вайсковая служба, а 3 гады — гэта навука ў засадні-чай школе завадовай (ёсць усялякія кірункі). Так што кожны выходзіць з войска маючы акрэсленую прафесію. Апрача таго, трэба мець закончаную пачатковую школу, але толькі пачатковую дзённую, вечаровыя аднак не залічваюцца.

**Сэрцайка**

## КІНО

**Праграма
на 9. — 14. XI. 1965 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zmartwychwstanie" II s. (radziecki), 9—10. „Powodzenia chłopcze" (jugosł.), 11—12. „Gorąca linia" (polski), 13—14.

**Кляшчэлі**
„Maja Plisiecka tańczy" (radziecki), 9—10. „Czarne i białe" (USA), 11—12. „Skowronek" (węgierski), 13—14.

**Дубіны**
„Bokser i śmierć" (czeski), 13—14.

**Нарва**
„Na tropie policjantów" łangielski), 10—14.

**Нараўка**
„Mrok za dnia" (węgierski), 10—14.

**Чыжы**
„Spotkanie ze szpiegiem" (polski), 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**
„Podróż w kwiecień" (radz.), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Artysta do wszystkiego" (radziecki), 10—14.

**Орля**
„Biedni bogacze" (węgierski), 10—14.

**Райск**
„Życie raz jeszcze" (polski), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Czapajew" (radz.), 13—14.

**Міхалова**
„Życie przeszło obok" (radz.), 9—10. „Wir" (węgierski), 11—12. „Pingwin" (polski), 13—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Korsarze Pacyfiku" I s. (radziecki), 9—10. „Korsarze Pacyfiku" II s. (radz.), 11—12. „Tysięczne okno" (franc.), 13—14.

**Мілейчыцы**
„Człowiek, który wątpi" (radziecki), 9—10. „Królewna i rybak" (czeski), 11—12. „Skowronek" (węgierski), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Bajka o zmarnowanym czasie" (radz.), 9—10. „Ballada o dziewczynie" (wietnamski), 11—12. „Prawo i pięść" (polski), 13—14.

**Шудзялава**
„Handlarze opium" (chiński), 10—14.

**Сідра**
„Spotkali się w pociągu" (radzieckі), 9—10. „Latawiec z końca świata" (radz.), 11—12. „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 13—14.

**Сухаволя**
„Aktorka księcia pana" (radziecki), 9—10. „Karambol" (węgierski), 11—12. „Gładka skóra" (franc.), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Hasło „Odwaga" (angl.), 13—14.

**Ліпск**
„Banda" (polski), 13—14.

## ТЭАТРЫ

**Тэатр ім. Вянгеркі**
(выязная група)

**Нурэц — 9. XI.**
„Pułapka na samotnego mężczyznę" — godz. 19.00.

**Чаромуха — 10. XI.**
„Pułapka na samotnego mężczyznę" — godz. 19.00.

**не ведаеш пра магнітную міну, каторая ў лесніка!.. Паварочваюся да дзвярэй. Чыгроў не адпускае, працягвае паперку, якую я ўчора пісаў:**

**— Тут гаворыце пра стрэлку. Трэба напісаць, на колькі гадзін вывелі са строю чыгунку.**

**— Я ж дакладваў: праз Валілы дзве гадзіны не хадзілі паязды, стаялі на суседніх станцыях. Немцы пуць адрамантавалі і ізноў іх пусцілі. А вось траіх сялян забралі...**

**— Так і напішыце ў акце: руху на чыгунцы Ваўкавыск—Беласток не было столькі-то часу!**

**Паміж гэтымі гарадамі мо з дваццаць станцый і паўстанкаў. На некаторых паязды па плану спыняюцца на паўгадзіны. Пасля дыверсіі стаянкі гэтыя немцы скарацілі, і поезд усё роўна прыйшоў у Беласток ці ў Ваўкавыск у вызначаны час.**

**— У вас адразу адчуваецца невайсковы чалавек, — прабуе ўзяць мяне інакш. — У нашай прафесіі мусіць быць сказана дакладна дзе, што, як. Гэтыя весткі падсумуюць і атрымаюць поўную карціну...**

**Болей яго не слухаю. Ва мне нараджаецца сумненне. А мо Галя і не перамянілася, мне толькі так здалося? Мо дарма брашу на яе? Знайшоў каго слухаць, — Кулешу!.. Вось жа не змагла перанесці капітанавы хітрыкі, уцякла? Цікава, што б мне сказала, каб не было Сляпухі ў зямлянцы? Трэба ж яму зайсці ў такую пару!..**

**— Бярыце і перапісвайце рапарт!**

**— Слухаю. Дазвольце ісці, таварыш капітан?**

129

**— Чаго вы за кожным разам ускакваеце? Скажу, калі будзе трэба!**

**Саджуся.**

**— Яшчэ вам забараняю расказваць каму-небудзь пра ўсё, што бачылі ў сваёй мясцовасці. Другія камандзіры будуць выпытваць, то шліце іх да мяне, ясна?**

**— Ясна...**

**— Цяпер можаце ісці.**

**Раблю паварот праз левае плячо, адбіваю тры крокі і вылятаю на свежае паветра.**

**На двары пануе цішыня. Са снегу ўзнімаецца пара. Сям-там уюцца дымкі ад камінoў. Пад ботамі хрумсціць лёд на лужынах. Канчаецца сакавік. Хоць у лесе яшчэ холадна, але і ў ім адчуваецца вясна. Весела цвіркаюць птушкі, абіваюць з галінак іней, дурэюць. Неба высокае, сіняе. Дзе-нідзе праз лес прабіліся густыя промні сонца, і выглядае так, нібы ўдалі ад кронаў да зямлі хтосьці нацягнуў, як струны, істужкі марлі. А на полі ўжо дзесьці парýюць прataліны, звініць першы жаўрук... Душа рвецца да работы. Нерашуча тапчуся ля сваёй зямлянкі. Дам дакладную, а там што? Рыхтуйся ехаць з фуражом. Не паеду, то старшына выжане на паляну займацца страявой. З-за таго, што бяздарнасць Кулеша не можа ўзяць на плячо вінтоўкі, тырчы на двары з раніцы да вечара! Навошта партызану страявая?.. У лепшым выпадку праз месяц пашлюць зноў у Страшава даведацца; дзе, колькі стаіць немцаў, запісаць прозвішчы новых здраднікаў. Такое заданне выканае і цётка Кірыліха! Хочацца быць агнём, фіцілём, дынамітам, а не тэрмометрам. Неахвотна апускаюся ў сваё жыллё.**

**(Працяг будзе)**

130

## Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie —14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błtk C-3.

